*Т.І. ДОЎНАР*

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ І ПРАВА БЕЛАРУСІ Ў ПРАЦАХ ПРАФЕСАРА І.А. ЮХО

Дана краткая характеристика эволюции историко-правовой науки Беларуси, вклада ряда ученых в ее становление и развитие. Отмечены ее основные достижения и недостатки на важнейших исторических этапах. Особое внимание уделено научному вкладу доктора юридических наук, профессора И.А. Юхо.

In the article briefly described the process of evolution of legal history studies in Belarus, contribution of different Belarusian scientist to its development, marked the main stages of its development. Special attention paid to contribution in legal history studies development made by outstanding Belarusian researcher – Professor J.A. Jucho.

Іосіф (Язэп) Аляксандравіч Юхо нарадзіўся ў Мінску ў год заснавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1939 г. ён быў прызваны на службу ў Чырвоную Армію. Падчас Вялікай Айчыннай вайны І.А. Юхо прымаў удзел у баях пад Масквой, Сталінградам, ва Усходняй Прусіі і інш., за што быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Ён удзельнічаў таксама ў вызваленні Беларусі. Пасля заканчэння вайны паступіў у Мінскі юрыдычны інстытут, які скончыў з адзнакай у 1949 г. Пэўны час працаваў суддзёй, а ў 1952 г. стаў аспірантам Інстытута філасофіі і права АН БССР. У 1954 г. ім была абаронена кандыдацкая дысертацыя на тэму «Устанаўленне Савецкай улады ў Заходняй Беларусі ў 1939 г.». У 1956 г. перайшоў на працу ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Спачатку на юрыдычным факультэце ён заняў пасаду дацэнта кафедры грамадзянскага і грамадзянска-працэсуальнага права (1956–1961), потым як прызнаны вучоны быў накіраваны на працу ва ўрад рэспублікі намеснікам старшыні юрыдычнай камісіі пры Савеце Міністраў БССР (1961–1964). Пасля вяртання ў БДУ І.А. Юхо працаваў дацэнтам, потым загадчыкам кафедры гісторыі дзяржавы і права (1967–1974), намеснікам дэкана юрыдычнага факультэта (1974–1982), а пасля абароны доктарскай дысертацыі ў 1980 г. у Кіеўскім дзяржаўным універсітэце займаў пасаду прафесара кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права.

Менавіта ў межах БДУ раскрыўся выкладчыцкі, а таксама навукова-даследчыцкі талент І.А. Юхо. На працягу другой паловы XX ст. асноўным накірункам яго дзейнасці з'яўляўся ўдзел у падрыхтоўцы прафесійных юрыстаў. Працягваючы навуковыя традыцыі, закладзеныя папярэднімі навукоўцамі БДУ, у тым ліку яго першым рэктарам У.І. Пічэтай, ён адначасова займаўся даследаваннем гістарычнага мінулага Беларусі.

Патрэбна адзначыць, што доўгі час пытанні гісторыі дзяржавы і права Беларусі амаль не падвяргаліся навуковай распрацоўцы. На працягу мінулых стагоддзяў айчынныя і замежныя навукоўцы ў сваіх працах часам закраналі гісторыю Беларусі, аднак у большасці ў кантэксце расійскай ці польскай гісторыі. У цэлым жа, як неаднойчы падкрэсліваў І.А. Юхо, між тым як усе еўрапейскія народы мелі права на сваю ўласную гісторыю, толькі адносна беларускага народа па тых ці іншых прычынах рабілася выключэнне[1]. Як у мінулы дарэвалюцыйны гістарычны перыяд, так і ў савецкі даследаванне прававой спадчыны, якое з'яўляецца важнейшай задачай гісторыка-прававой навукі, стрымлівалася шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў. У сувязі з гэтым у айчыннай гісторыі існавалі шматлікія і значныя прабелы, а гісторыка-прававая навука ўвогуле не развівалася. Амаль не публікаваўся гістарычны дакументальна-прававы матэрыял адносна Беларусі (вельмі аб'ёмны і значны), далёка не ўсе архіўныя матэрыялы былі даступнымі даследчыкам. Акрамя таго, закранутыя ў кнігах гістарычныя падзеі адносна Беларусі трактаваліся даволі адвольна і тэндэнцыйна, шмат гістарычных пытанняў асвятлялася павярхоўна і аднабакова, а некаторыя з іх увогуле замоўчваліся.

І.А. Юхо адзначаў, што толькі з узнаўленнем беларускай дзяржаўнасці на пачатку XX ст. і адкрыццём у 1921 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пачаўся больш значны этап развіцця гістарычнай і гісторыка-прававой навукі Беларусі. Першы рэктар БДУ У.І. Пічэта, які выкладаў і студэнтам-правазнаўцам, выдаў шмат навуковых прац, прысвечаных сацыяльна-культурнай, эканамічнай і прававой гісторыі Беларусі[2]. Вакол яго сфарміравалася навуковая гістарычная школа – кола даследчыкаў (А.В. Бурдзейка, Д.І. Даўгяла, В.Д. Дружчыц, Т.І. Забэлла, К.І. Таўсталес і інш.), якія актыўна распрацоўвалі шматлікія пытанні гісторыі Беларусі, закранаючы пры гэтым і гісторыка-прававыя праблемы. Напрыклад, В.Д. Дружчыц унёс значны ўклад у даследаванне пытанняў аб Магдэбургскім праве ў гарадах Беларусі. Актывізацыі даследаванняў у 1920-я гг. садзейнічала і заснаванне Інстытута беларускай культуры (1922), дзе разам з вывучэннем актуальных праблем дзяржаўна-прававога будаўніцтва на Беларусі (напрыклад, даследаваннем прычын злачыннасці) даследаваліся пытанні прававой гісторыі, у кантэксце якой пачалося выданне дзяржаўна-прававых актаў XVI–XVII стст., уваходзячых у склад Літоўскай метрыкі. Так, быў выдадзены трохтомны «Беларускі архіў» (1927–1930). Аднак, пачынаючы з 1930-х гг., навуковыя даследаванні айчыннай гісторыі па вядомых прычынах рэзка скарачаюцца.

Толькі ў пасляваенны перыяд на падставе рашэнняў XX з'езда КПСС адносна пашырэння правоў рэспублік у сферы эканомікі і заканадаўства намаганнямі беларускіх вучоных пачынаюцца значныя зрухі ў сферы распрацоўкі айчыннай прававой гісторыі. У рэспубліцы быў пакладзены пачатак новаму накірунку гісторыка-прававой навукі – гісторыі дзяржавы і права Беларускай ССР. Значным прарывам у гэтым накірунку стала выданне ў 1958 г. у БДУ калектыўнай працы «Очерки по истории государства и права БССР» (Б.Е. Бабіцкі, Ф.І. Гаўзе, І.І. Гарэлік, Г.А. Павецьеў, Л.А. Рудзіцкі, І.С. Тышкевіч, Ю.П. Смірноў, В.Ф. Чігір), у якой з пазіцый тагачаснай савецкай гісторыка-прававой навукі разглядаліся пытанні развіцця дзяржавы і права БССР з моманта яе ўзнікнення да 1934 г. У 1969 г. у выдавецтве БДУ былі апублікаваны калектывам аўтараў (Б.Е. Бабіцкі, А.А. Галаўко, Ф.І. Гаўзе, В.А. Дарогін і інш.) «Очерки по истории государства и права БССР» (выпуск другі), дзе разглядаліся пытанні развіцця дзяржавы

і права БССР з 1936 па 1968 г. Адказным рэдактарам і суаўтарам гэтай кнігі быў І.А. Юхо. У выданне былі ўключаны вынікі кандыдацкай дысертацыі І.А. Юхо аб праблеме ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. Увогуле гэтай праблеме быў прысвечаны шэраг яго публікацый, у якіх ён звяртаў увагу на складаны і неадназначны характар грамадска-палітычнага працэсу, звязанаму са знаходжаннем Заходняй Беларусі ў складзе Польскай дзяржавы з 1920 па 1939 г. і далучэннем яе да Беларускай ССР[3].

Неабходна адзначыць, што тагачасная савецкая рэчаіснасць патрабавала ад навукоўцаў прытрымлівання пэўных ідэалагічных установак і не дазваляла ў поўнай меры выказваць уласныя погляды па пытаннях гістарычнага развіцця беларускай дзяржаўнасці. Асабліва гэта тычылася друкаваных навуковых прац, адносна якіх дзейнічала цэнзура. Аднак многія выкладчыкі юрыдычнага факультэта выходзілі за межы сваіх прадметаў і выказвалі (часам у надта завуаліраванай форме) погляды на праблемныя пытанні гістарычнай эвалюцыі дзяржавы і права. Гэта ў поўнай меры было характэрным для лекцый І.А. Юхо, які з 1963 г. пачаў першым выкладаць на юрыдычным факультэце БДУ новую вучэбную дысцыпліну – «Гісторыю дзяржавы і права Беларусі». Амаль што з чыстага ліста ён распрацаваў адпаведны курс, а таксама вучэбную праграму па дадзеным прадмеце, у якой вызначаліся мэты і задачы курса, пералік асноўных тэм і пытанняў, патрабаванні да студэнтаў адносна засваення курса і інш.[4] Менавіта галоўным педагагічным і навукова-метадычным дасягненнем навукоўцы з'яўляецца распрацоўка і ўкараненне ў выкладчыцкую практыку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта гэтай новай вучэбнай дысцыпліны, вынікам чаго стала павышэнне самасвядомасці студэнтаў, іх павагі да гісторыі ўласнага народа і цікавасці да гісторыка-прававых даследаванняў.

Варта падкрэсліць, што ў сферы выкладчыцкай дзейнасці ўвага І.А. Юхо надавалася не толькі падрыхтоўцы высакаякасных спецыялістаў-правазнаўцаў, але і выхаванню эрудзіраваных, сумленных і нацыянальна-свядомых студэнтаў – патрыётаў сваёй Айчыны. У кантэксце гэтага ў сваіх лекцыях і на семінарскіх занятках ён выказваў і абгрунтоўваў вельмі цікавыя і самастойныя думкі па актуальных пытаннях грамадска-палітычнага жыцця дзяржавы, праблемных пытаннях тэорыі і айчыннай гісторыі дзяржавы і права, прычым часам такія, што супярэчылі афіцыйным поглядам савецкай навукі. Менавіта гэта служыла падставай для асаблівай зацікаўленасці студэнтаў, аспірантаў, маладых навукоўцаў і заахвочвання іх да навуковых даследаванняў. Да таго ж Іосіф Аляксандравіч, валодаючы энцыклапедычнымі ведамі і ўнікальнай інфармацыяй, не баяўся выйсці за межы выкладаемага прадмета. Напрыклад, асабістай яго зацікаўленасцю была творчая спадчына і грамадская дзейнасць вялікага рускага пісьменніка Льва Талстога, у сувязі з чым ён, не шкадуючы сіл і часу, у асяроддзі выкладчыкаў і студэнтаў, у любой аўдыторыі актыўна прапагандаваў творчасць гэтага знакамітага пісьменніка і яго неўміручую ідэю аб непраціўленні злу насіллем. І.А. Юхо надрукаваў шэраг артыкулаў, непасрэдна прысвечаных творчасці Льва Талстога[5]. У выніку студэнты заахвочваліся да вучобы і набыцця больш шырокіх і разнастайных ведаў.

З самага пачатку навукова-педагагічнай дзейнасці і на працягу ўсяго творчага жыцця І.А. Юхо прыкладваў значныя намаганні ў сферы актуалізацыі пытанняў гісторыі дзяржавы і права Беларусі і неабходнасці яе сістэмнай навуковай распрацоўкі. У сваіх публікацыях ён падкрэсліваў асаблівасць і складанасць айчыннай гісторыі, заахвочваючы навукоўцаў да даследаванняў белых плям і праблемных пытанняў айчыннай гісторыі, прапагандаваў значныя дасягненні продкаў у сферы права[6]. Асаблівая ўвага надавалася навукоўцам даследаванню прававой спадчыны беларускага народа. Шэраг яго навуковых артыкулаў быў непасрэдна прысвечаны помнікам права і асабліва знакамітым Статутам ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг.[7] І.А. Юхо ўвесь час падкрэсліваў асаблівую значнасць Статута 1529 г., у аснову якога было пакладзена галоўным чынам звычаёвае права старажытных беларускіх дзяржаў-княстваў (Полацкага, Віцебскага, Турава-Пінскага, Навагрудскага і інш.). Увогуле ён абгрунтоўваў навуковы тэзіс аб высокай духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа, адзначаў, што нашыя продкі ў вельмі старажытныя часы мелі сваю дзяржаўнасць, уласныя рэлігію, светапогляд, звычаёвае права, якое дзейнічала працяглы час і рэгулявала ўсе грамадскія адносіны (сістэму органаў улады і кіравання, судовых органаў, правы і абавязкі насельніцтва і інш.), падкрэсліваў, што галоўнай часткай звычаёвага права было копнае (вечавое) права[8]. І.А. Юхо аргументавана даказваў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы Статута 1529 г. знакамітага беларускага мысліцеля Францыска Скарыны, што ў першую чаргу выцякала з супастаўляльнага аналізу твораў Скарыны і зместу Статута. Увогуле ён лічыў Статуты канстытуцыйнымі законамі і першымі ў Еўропе зводамі законаў (а не кодэксамі, як лічылі некаторыя вучоныя). Ён пазначаў, што стварэнне гэтых выдатнейшых помнікаў права стала магчымым у сувязі з актыўным развіццём у Беларусі палітыка-прававой думкі. Менавіта прагрэсіўныя прававыя ідэі тагачасных беларускіх мысліцеляў і палітычных дзеячаў знайшлі адлюстраванне ў той ці іншай ступені, хоць некалькі ў дэкларатыўным выглядзе, у Статутах.

Несумненнай заслугай І.А. Юхо з'яўляецца ўдзел у акцэнтацыі ўвагі і ўвядзенні ў навуковае абыходжанне гісторыка-прававой навукі звестак аб дасягненнях айчынных мысліцеляў і дзяржаўных дзеячаў у сферы палітыка-прававой думкі (Ф. Скарыны, М. Літвіна, А. Волана, Мікалая Радзівіла Чорнага, А. Валовіча, Л. Сапегі, С. Буднага, П. Скаргі, М. Сматрыцкага і інш.)[9]. Пры гэтым ён адзначаў генетычную сувязь палітыка-прававой думкі і заканадаўства, падкрэсліваў, што актывізацыя палітыка-прававой думкі ў XV–XVI стст., якая ў большасці апярэджвала свой час, з'ўлялася важкай падставай для прагрэсіўнага развіцця заканадаўства.

У сваіх творах І.А. Юхо пастаянна засяроджваў увагу на мінулых айчынных прававых набытках, падрэсліваў прагрэсіўнасць поглядаў беларускіх мысліцеляў, адзначаў дасягненні і пралікі палітычных дзеячаў. Так, некалькі навуковых прац ён прысвяціў на пэўны перыяд незаслужана забытаму дзеячу нацыянальна-вызваленчага руху XVIII ст., ураджэнцу Беларусі Тадэвушу Касцюшку, які пакінуў значны след у палітычным жыцці шэрагу еўрапейскіх дзяржаў, а таксама Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе змагаўся за незалежнасць[10].

Важкай падставай паспяховай і больш актыўнай навукова-даследчай дзейнасці ў сферы гісторыка-прававой навукі Беларусі ў другой палове XX ст. сталі шматлікія артыкулы і кнігі прафесара І.А. Юхо, у якіх давалася характарыстыка паэтапнага гістарычнага развіцця беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнай прававой сістэмы, акцэнтавалася ўвага на праблемных і маладаследаваных пытаннях айчыннай гісторыі дзяржавы і права. Так, І.А. Юхо неаднойчы ў сваіх публікацыях звяртаў увагу на пытанне аб паходжанні беларускай дзяржаўнасці, якое дагэтуль застаецца адкрытым. Гэта абумоўлена шэрагам прычын, а асабліва недастатковасцю дайшоўшых да нашага часу пісьмовых звестак, аналіз якіх дазволіў бы ўстанавіць сапраўдныя час і прычыны, што прывялі да пераходу ад дадзяржаўных формаў грамадскага існавання да палітыка-тэрытарыяльнай арганізацыі кіравання грамадствам. Вынікам гэтага стала шматлікасць тэорый і прычын паходжання дзяржаўнасці ва Усходняй Еўропе і часам вельмі суб'ектыўных меркаванняў адносна гістарычнага перыяду ўзнікнення дзяржаўнасці. І.А. Юхо, крытыкуючы нарманскую тэорыю і папярэднія навуковыя погляды, што доўгі час панавалі ў гістарычнай навуцы, сістэмна прааналізаваў летапісныя звесткі і літаратурныя крыніцы, перш за ўсё творы такіх знакамітых навукоўцаў дарэвалюцыйнага і савецкага перыядаў, як У. Тацішчаў, І. Забелін, М. Дзяканаў, В. Сергеевіч, С. Юшкоў, Б. Грэкаў, Б. Рыбакоў і інш., дзе часам некалькі ў завуаліраванай форме выказвалася меркаванне аб магчымасці існавання дзяржаўнасці на стыку старой і новай эпох, і зрабіў асноўны вывад: дзяржаўнасць у народаў Усходняй Еўропы паўстала задоўга да новай эры. Ён падмацоўваў гэты вывад спасылкамі на меркаванні некаторых навукоўцаў, іншыя гістарычныя крыніцы, у тым ліку на звесткі Герадота, які засведчыў існаванне нашых продкаў – будзінаў і неўраў, што жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў VI–V стст. да н. э.[11]

У 1970–1976 гг. І.А. Юхо прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы двухтомнага выдання «Истории государства и права Белорусской ССР», падрыхтаванага калектывам акадэмічных і вузаўскіх навукоўцаў (С.П. Маргунскі, І.І. Пацяружа, В.Н. Арцёмава, Ю.П. Броўка, М.В. Сторажаў, У.І. Семянкоў, У.І. Шабайлаў і інш. (Гэтая фундаментальная кніга стала падручнікам для студэнтаў і важкай падставай для далейшых айчынных гісторыка-прававых даследаванняў, хоць у той перыяд часу ўсе яны адбываліся галоўным чынам у рэчышчы тагачасных савецка-партыйных установак.

У 1978 г. на падставе доктарскай дысертацыі была выдадзена манаграфія І.А. Юхо «Прававое становішча насельніцтва Беларусі ў XVI ст.», у якой выкладзены ўяўленні навукоўцы аб структуры феадальнага грамадства ў Беларусі, правах і абавязках саслоўяў і асобных груп насельніцтва. Ён раскрыў прававы статус самага прывілеяванага саслоўя шляхты, якое складала даволі значны ў працэнтных адносінах і найбольш культурны пласт насельніцтва, звярнуў увагу на тое, што беларускія сяляне ў феадальны перыяд мелі пэўныя правы, а не толькі вялікую колькасць абавязкаў, ахарактарызаваў становішча гарадскога насельніцтва, падкрэсліваючы пры гэтым больш значныя правы гараджан тых гарадоў Беларусі, якія з канца XIV ст. пачалі атрымліваць Магдэбургскае права, пазначаў, што ў аснову яго быў пакладзены прынцып гарадскога самакіравання, што садзейнічала не толькі палітычнаму і эканамічнаму развіццю гарадоў, але і эвалюцыі ў прагрэсіўным накірунку самой дзяржаўнасці.

Увогуле пытанню развіцця самакіравання ў Беларусі навуковец надаваў значную ўвагу, бо лічыў яго адной з важнейшых дзяржаўна-прававых праблем. Гэта навукова-практычная тэма заўсёды знаходзілася ў полі яго зроку, і ён заахвочваў маладых навукоўцаў да яе распрацоўкі. Тут да месца падкрэсліць, што ўвогуле ў сферы айчыннай гісторыка-прававой навукі І.А. Юхо заўсёды падаваў маладым навукоўцам цікавыя навуковыя ідэі і заахвочваў да іх распрацоўкі.

У сувязі з новымі прагрэсіўнымі тэндэнцыямі ў развіцці дзяржаўнасці Беларусі на пачатку 1990-х гг. І.А. Юхо стаў ініцыятарам пераходу на беларускамоўнае навучанне студэнтаў і першым на юрыдычным факультэце падаў у гэтым прыклад. У той час, калі Беларусь стала на шлях пабудовы суверэннай прававой дзяржавы, вельмі актуальным быў нацыянальна-дзяржаўны падыход у вывучэнні айчыннай гісторыі. Усведамленне ўласнага гістарычнага шляху стала асновай больш дакладнага, усебаковага і праўдзівага асвятлення гісторыі беларускай дзяржаўнасці і актывізацыі навуковых даследаванняў. Галоўнай падставай гэтага стала заканадаўчае замацаванне ў дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, адным з распрацоўшчыкаў якой быў прафесар І.А. Юхо, факта шматвяковага існавання беларускага этнасу і беларускай дзяржаўнасці як суб'ектаў сусветнай гісторыі.

У дадзены перыяд несумненнай навуковай заслугай І.А. Юхо з'яўляецца актыўная распрацоўка або пастаноўка праблемных пытанняў гістарычнага развіцця беларускай дзяржаўнасці і прававой сістэмы. Перш за ўсё гэта тычыцца гісторыі органаў улады, судовых органаў, крыніц права, Магдэбургскага права, айчыннага канстытуцыяналізму і парламентарызму. Яго публікацыі былі прысвечаны самым розным і вельмі актуальным праблемам гісторыі дзяржавы і права Беларусі – паходжанню назвы «Беларусь», гісторыі заканадаўства, помнікам айчыннага права, уніям Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, уплыву Польшчы і Расіі на гісторыю беларускага народа, прававым поглядам беларускіх

мысліцеляў, значэнню гісторыка-прававой навукі і інш. Ён выказаў уласныя навуковыя пазіцыі па праблеме фарміравання тэрыторыі Беларусі, абгрунтаваў тэзіс аб пераважна беларускім этнічным характары Вялікага Княства Літоўскага, сутнасці паланізацыйнай палітыкі кіраўніцтва Рэчы Паспалітай, прычым адзначаў, што гэта дзяржава з'яўлялася канфедэрацыяй, у якой захоўваўся суверэнітэт Вялікага Княства Літоўскага і г. д. Значная ўвага надавалася ім перыяду знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі. Ён падкрэсліваў добра вядомы навукоўцам гістарычны факт, што беларускія землі да падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. не ўваходзілі ў склад Расіі, характарызаваў прычыны, сутнасць і наступствы русіфікатарскай палітыкі царызму.

Заўсёды ў поле зроку І.А. Юхо знаходзілася гісторыя айчыннага заканадаўства. У 1991 г. была апублікавана яго кніга «Крыніцы беларуска-літоўскага права», непасрэдна прысвечаная характарыстыцы важнейшых нарматыўных актаў, якія дзейнічалі на працягу стагоддзяў у Беларусі, перш за ўсё агульназемскім, абласным, валасным і гарадскім граматам, Судзебніку 1468 г., Статутам 1529, 1566, 1588 гг. Пры гэтым падкрэсліваў, што ў аснову пісанага заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага было пакладзена звычаёвае права старажытных беларускіх дзяржаў (Полацкага, Турава-Пінскага і інш.), адзначаў яго дзеянне доўгі перыяд часу ў складзе ВКЛ, а таксама тое, што паступовы пераход ад звычаёвага права да пісанага заканадаўства быў выкліканы больш інтэнсіўнымі міжнароднымі сувязямі, узбуйненнем тэрыторыі дзяржаў, распаўсюджваннем пісьменства сярод насельніцтва. На падставе сістэмнага аналізу помнікаў права І.А. Юхо зрабіў вывад аб нацыянальнай адметнасці айчыннага права і параўнальна высокай тагачаснай прававой культуры беларускага народа, аб чым, на яго думку, і сведчыла заканадаўства XV–XVI стст. і перш за ўсё Статут 1588 г. – своеасаблівая феадальная канстытуцыя. Увогуле ён лічыў Статуты канстытуцыйнымі законамі і першымі ў Еўропе зводамі законаў (а не кодэксамі, як лічылі некаторыя вучоныя).

І.А. Юхо прыняў удзел у падрыхтоўцы некалькіх падручнікаў па гісторыі дзяржавы і права СССР, у якіх ім былі напісаны раздзелы аб Вялікім Княстве Літоўскім[12].

У сваіх публікацыях І.А. Юхо выказаў уласнае разуменне савецкага перыяду беларускай дзяржаўнасці. Ён падкрэсліваў важнасць і дасягненні ў развіцці савецкай беларускай дзяржаўнасці і гістарычнай навукі ў перыяд актыўнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў 1920-я гг., адзначаў негатыўныя тэндэнцыі ў 1930–1940-я гг., рабіў агульны вывад адносна таго, што эвалюцыя Беларускай ССР адбывалася, на жаль, «не на аснове самастойнага гістарычнага развіцця беларускай нацыянальнай дзяржавы»[13]. На падставе пераасэнсавання папярэдніх навуковых напрацовак, назапашанай інфармацыі і ўласнага вопыту як удзельніка Вялікай Айчыннай вайны ў апошніх падрыхтаваных з яго ўдзелам кнігах ён разважаў аб прычынах адступлення Чырвонай Арміі ў першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны і яе зацяжнога характару, панесеных беларускім народам шматлікіх чалавечых і матэрыяльных стратах і інш.[14] У сваіх публікацыях ён адзначаў, што на гістарычным шляху беларускага народа было шмат цяжкасцей і страт, панесеных часам з-за неразумнай палітыкі або здрады кіруючых вярхоў (як, напрыклад, падчас Люблінскай уніі 1569 г. ці Таргавіцкай канфедэрацыі 1792–1793 гг.), аднак былі і часы выдатных здзяйсненняў і перамог (напрыклад, перамога над татарамі на Сіняй вадзе ў 1362 г., над крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 г. і інш.). Да такіх выдатных перамог ён адносіў і перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне.

Важнай навуковай падзеяй стала выданне манаграфіі І.А. Юхо «Гістарыяграфія гісторыі дзяржавы і права феадальнай Беларусі» (1999), дзе быў дадзены кароткі агляд навуковых публікацый, у якіх разглядаліся, або закраналіся пытанні гісторыі дзяржавы і права Беларусі, а таксама давалася іх крытычная ацэнка. Асабліва ён падвергнуў крытыцы погляды шэрагу польскіх навукоўцаў адносна несамастойнасці Беларусі і значнага ўплыву польскага права, адзначаў памылковасць іх поглядаў адносна ўній ВКЛ з Польшчай. Увогуле навуковец звяртаў увагу на прычыны тэндэнцыйных адносін многіх замежных навукоўцаў (польскіх, літоўскіх, расійскіх і інш.) да беларускай гісторыі, на падставе чаго адбывалася яе замоўчванне і нават фальсіфікацыя. Адначасова ён падкрэсліваў значэнне і важнасць папярэдніх даследаванняў, дзякуючы якім шляхам навуковых дыскусій можна знайсці ісціну.

Адным з важных накірункаў навукова-даследчай дзейнасці І.А. Юхо стаў удзел у падрыхтоўцы шэрагу энцыклапедычных выданняў. Ён быў адным з ініцыятараў і аўтараў першага на беларускай мове выдання «Юрыдычнага энцыклапедычнага слоўніка» (1989). Па ініцыятыве І.А. Юхо быў перавыдадзены шэраг помнікаў права Беларусі, у тым ліку Статут 1588 г. і Статут 1566 г. (2003), што садзейнічала актывізацыі навуковых даследаванняў. Навуковец удзельнічаў таксама ў падрыхтоўцы выданняў: энцыклапедычнага даведніка «Мысліцелі і асветнікі Беларусі» (1995), «Асветнікі зямлі беларускай» (2003), «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (1993–2004), энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» (2005–2006).

У апошнія гады свайго жыцця І.А. Юхо значную ўвагу надаваў гісторыі айчыннага канстытуцыяналізму. Па яго ініцыятыве ў суаўтарстве з Р.А. Васілевічам і Т.І. Доўнар у 2001 г. была выдадзена кніга «Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі», у якой на падставе дакументальна-прававога матэрыялу паслядоўна разглядалася зараджэнне і развіццё канстытуцыйнага права Беларусі, пачынаючы са старажытнасці і да нашага часу. Ва ўводзінах да кнігі ён адзначаў, што захавалася да нашых часоў нязначная частка старажытных пісаных дзяржаўна-прававых актаў, у якіх замацоўваліся канстытуцыйныя нормы, аднак многія нормы былі перанесены ў пазнейшыя помнікі права, што і дало магчымасць прасачыць гістарычны шлях развіцця канстытуцыяналізму Беларусі. Кніга з'явілася першай спробай

выкласці ў храналагічным парадку працэс развіцця канстытуцыйнага права ад адасобленых норм, выкладзеных у старажытных граматах, да высокаразвітай прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь. Яна ўтрымлівала ў храналагічным парадку вытрымкі з грамат, статутаў, іншых канстытуцыйных актаў дасавецкага перыяду, з канстытуцыйнага заканадаўства і Канстытуцый Беларускай ССР, а таксама з канстытуцыйнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

І.А. Юхо напісаў некалькі прац па гісторыі працэсуальнага права, стаў суаўтарам падручніка па грамадзянска-працэсуальнаму праву[15]. Ён прыняў удзел у выданні на англійскай мове кніг аб гістарычным шляху беларускай нацыі і дзяржавы[16]. Шэраг артыкулаў навуковец прысвяціў развіццю айчыннай юрыдычнай навукі, у тым ліку і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце[17]. У іх ён паказваў месца юрыдычнай навукі ў сістэме грамадскіх навук, адзначаў значэнне гісторыка-прававой навукі і навуковыя дасягненні ў гэтай сферы, характарызаваў уклад у яе развіццё навукоўцаў юрыдычнага факультэта.

Большасць кніг І.А. Юхо была непасрэдна прызначана студэнтам вышэйшых юрыдычных навучальных установ Беларусі. Гэтыя кнігі з'яўляюцца і зараз важнейшымі навучальнымі дапаможнікамі для студэнтаў-правазнаўцаў ВНУ Рэспублікі Беларусь.

Асаблівая заслуга прафесара І.А. Юхо ў заснаванні навуковай гісторыка-прававой школы Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам быў абаронены шэраг кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. З яго ўдзелам навукоўцы кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ, заснаванай у 1954 г., даследавалі разнастайныя пытанні айчыннай гісторыі, публікавалі навуковыя артыкулы, манаграфіі і вучэбныя дапаможнікі па гісторыі дзяржавы і права Беларусі.

Навуковай творчасці і педагагічнай дзейнасці прафесара І.А. Юхо, яго ўкладу ў развіццё навукі гісторыі дзяржавы і права Беларусі была прысвечана Міжнародная навуковая канферэнцыя «Праблемы гісторыі дзяржавы і права Беларусі», якая адбылася 18–19 сакавіка 2011 г. на юрыдычным факультэце БДУ ў сувязі з 90-годдзем з дня яго нараджэння.

У сваіх дакладах і паведамленнях айчынныя, а таксама замежныя навукоўцы з Расіі, Украіны, Літвы і іншых краін разважалі аб ролі, значэнні і сацыяльнай місіі гуманітарных навук у сучасным грамадстве, метадалогіі пазнання прававых з'яў, асаблівасцях трансфармацыі нацыянальнай дзяржавы ў сучасных умовах, шляхах удасканалення дзяржаўна-палітычных і прававых інстытутаў на этапе пабудовы сацыяльнай прававой дзяржавы і г. д. У шэрагу дакладаў у параўнальным аспекце разглядаліся пытанні гістарычнага развіцця дзяржавы і права Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Сербіі, а таксама выкладаліся ўяўленні навукоўцаў аб складаных тэарэтыка-прававых праблемах развіцця сучасных нацыянальных дзяржаўнасцей і прававых сістэм.

Галоўныя даклады і паведамленні былі прысвечаны навукова-педагагічнай дзейнасці прафесара І.А. Юхо, яго творчай спадчыне, значэнню і пераемнасці яго навуковых ідэй у сучаснай гісторыка-прававой навуцы. Так, замежныя навукоўцы адзначалі значны ўплыў прац І.А. Юхо на іх навуковую творчасць. Беларускія ўдзельнікі канферэнцыі, многія з якіх з'яўляліся былымі студэнтамі Іосіфа Аляксандравіча, акцэнтавалі ўвагу на значным укладзе знакамітага вучонага не толькі ў развіццё гісторыка-прававой навукі і юрыдычнай адукацыі Беларусі, але і самой беларускай дзяржаўнасці. Напрыклад, прафесар Р.А. Васілевіч акцэнтаваў увагу на ўдзеле І.А. Юхо ў працы Канстытуцыйнай камісіі па падрыхтоўцы праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Ён адзначыў, што І.А. Юхо вельмі жадаў уключыць у тэкст прэамбулы звесткі пра знакамітыя помнікі айчыннага права – Статуты ВКЛ XVI ст., падкрэсліў важную ролю і актыўны ўдзел І.А. Юхо ў працы над тэкстам Канстытуцыі, у тым ліку над прэамбулай, якая мела нарматыўны змест (абавязковую юрыдычную моц), як і асноўная частка Канстытуцыі, і асаблівае значэнне, бо ўпершыню ў Асноўным Законе гаварылася аб шматвяковым, гістарычным шляху беларускай дзяржавы. Акрамя зборніка навуковых дакладаў удзельнікаў канферэнцыі, была выдадзена кніга «Памяць і слава: Іосіф Аляксандравіч Юхо. Да 90-годдзя з дня нараджэння» (Мн., 2011), у якую ўвайшлі манаграфія даследчыка, бібліяграфія яго публікацый, звесткі аб навуковай школе, а таксама ўспаміны вучняў і калег.

Усё гэта сведчыць, што навуковыя традыцыі, закладзеныя прафесарам І.А. Юхо, а таксама памяць аб ім захоўваюцца. Несумненна, творчая спадчына гэтага знакамітага навукоўцы будзе і ў далейшым садзейнічаць развіццю гісторыка-прававой навукі Беларусі.

[1] Гл.: Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: Вучэб. дапам. Мн., 1992.

[2] Гл.: Юхо І.А. Уладзімір Пічэта [Старонкі беларус. энцыкл.] // Полымя. 1967. № 5. С. 251–252.

[3] Гл.: Юхо Я.А. Уз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве – завяршаючы этап тэрытарыяльнай кансалідацыі беларускай сацыялістычнай нацыі // Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі. Мн., 1958. С. 129–143; Ён жа. Беларусь у новай польскай энцыклапедыі // Полымя. 1968. № 4. С. 177–180; Ён жа. Установление советской власти в западных областях Белоруссии и воссоединение белорусского народа в едином советском социалистическом государстве // Очерки истории государства и права БССР / И.А. Юхо (отв. ред.). Мн., 1969. Вып. 2. Гл. 2. С. 71–97.

[4] Гл.: Юхо И.А., Бабицкий Б.Е. Программа по истории государства и права БССР. Мн., 1964.

[5] Гл.: Юхо Я.А. Будучыня належыць Льву Талстому // Res Nova. 1997. № 1. С. 8–9; Ён жа. Непротивление злу // Всемирная литература. 1998. № 1. С. 153–161.

[6] Гл.: Юхо І. З гісторыі права // Беларусь. 1966. № 5. С. 28; Ён жа. Грамадскія і прававыя погляды Скарыны // Полымя. 1967. № 6. С. 175–180; Ён жа. Беларусь у новай польскай энцыклапедыі // Там жа. 1968. № 4. С. 177–180; Ён жа. Пра назву «Беларусь» // Там жа. 1968. № 1. С. 175–182.

[7] Гл.: Юхо І. Хто складаў Літоўскі Статут // Беларусь. 1958. № 3. С. 31; Ён жа. Статуты Вялікага княства Літоўскага // Полымя. 1966. № 11. С. 125–137; Ён жа. Скарбніца правовай культуры: аб Статутах Вялікага княства Літоўскага // Там жа. 1988. № 12. С. 166–179.

[8] Гл.: Юхо І.А. Звычаёвае права // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1996. Т. 3. С. 433–435.

[9] Гл.: Юхо Я.А. Скарына і прававая культура Беларусі // Спадчына. 1989. № 2. С. 52–54; Ён жа. Грамадскія і прававыя погляды Скарыны // Полымя. 1967. № 6. С. 175–180; Юхо И.А., Сокол С.Ф. Социально-политические и правовые идеи // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. Гл. 2. С. 73–85; Юхо И.А. Правовая культура [XII–XIX вв.] // Очерки истории науки и культуры Беларуси [IX–начало XX вв.]. Мн., 1996. С.129–145.

[10] Гл.: Юхо Я.А. За вольнасць нашу і вашу: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1990; Ён жа. За вольнасць нашу і вашу [Тадэвуш Касцюшка]: урывак з нарыса // Бацькаўшчына: Зб. гіст. літ. Мн., 1994. С. 96–98; Юхо Я.А., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994; Юхо Я. Наш нацыянальны герой [Т. Касцюшка, 1745–1817] // Сыны і пасынкі Беларусі / С.В. Барыс і інш. Мн., 1996. С. 95–134.

[11] Гл.: Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: Вучэб. дапам. Мн., 1992. С. 47–55.

[12] Гл.: Юхо И.А. Общественно-политический строй и право Литовского государства (XIII–XVI вв.) / История государства и права СССР: Учеб. М., 1967. Ч. 1. Гл. 10. С. 238–265; Ён жа. Великое княжество Литовское (XIII в.–1569 г.) // История отечественного государства и права: Учеб. / В.В. Абашмадзе и др. 2-е изд., перераб. М., 1992. Ч. 1. Гл. 9. С. 135–145; Ён жа. Великое княжество Литовское (XIII в.–1569 г.) // История отечественного государства и права СССР: Учеб. / В.В. Абашмадзе и др. М., 1996. Ч. 1. Гл. 9. С. 131–140.

[13] Юхо Я.А. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Дапам.: У 2 ч. Мн., 2003. Ч. 2.

[14] Гл.: Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917–1945 гг.): Вучэб. дапам. / В.А. Круталевіч, Я.А. Юхо. Мн., 1998; Юхо Я.А. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Дапам.: У 2 ч. Мн., 2003. Ч. 2.

[15] Гл.: Юхо И.А. Основы гражданского судопроизводства Союза ССР и ГПК союзных республик // Соц. законность. 1962. № 7. С. 38–43; Ён жа. Гражданский процессуальный кодекс Польской Народной Республики // Советская юстиция. 1967. № 1. С. 27–28.

[16] Гл.: Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы = The history of the belarusan Nation and State / М. Біч і інш.; Пер. на англ. А. Бурсава. Мн., 2005; Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы = The history of the belarusan Nation and State / М. Біч і інш.; Пер. на англ. А. Бурсава. Мн., 2006.

[17] Гл.: Юхо Я.А. Развіццё юрыдычнай навукі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце [1926–1995 гг.] // Весн. БДУ. Сер. 3. Права. 1969. № 1. С. 3–6; Ён жа. Развитие юридической науки в БГУ // Весн. БДУ. Сер. 3. Права. 1978. № 3. С. 44–48; Ён жа. Юридическая наука БССР за 60 лет // Правоведение. 1979. № 1. С. 3–10; Юхо И.А., Сокол С.К. История юридической науки Беларуси. Мн., 2000.

Паступіў у рэдакцыю 06.06.11.

***Таісія Іванаўна Доўнар*** – доктар юрыдычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права. Сфера навуковых інтарэсаў – гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Аўтар каля 250 навуковых, вучэбных і вучэбна-метадычных прац, з іх 5 манаграфій, падручніка і звыш 15 вучэбных дапаможнікаў. Узнагароджана Ганаровымі граматамі БДУ, нагрудным знакам Міністэрства адукацыі «Выдатнік адукацыі», з’яўляецца лаўрэатам прэміі імя У.І. Пічэты ў галіне сацыяльных і гуманітарных навук.